масл-а-… – *першая частка складаных слоў:*
масл-а-завод-□ *і інш.*
масл-еніц-а
масл-ен-ы
масл-ёнк-а
масл-іц-а
масл-і-ць
масл-ян-іст-ы
мас-оў-к-а
маст-ав-ая
маст-ав-ы
маст-аў-шчык-□
мастац-к-асць-□
маста[ц-к]-і (мастак+ск+і)
маста[ц-тв]-а (мастак+ств+а)
маста[ц-тв]-а-зна-вец-□
(мастак+ств+а+зна+вец-□)
маста[ц-тв]-а-зна-ўств-а
(мастак+ств+а+зна+ўств+а)
маста[ц-тв]-а-зна-ўч-ы
(мастак+ств+а+зна+ўч+ы)
маст-ок-□
масцік-ав-ы
масц-і-льшчык-□
масц-ін-а
масц-іст-ы
масц-іт-асць-□
масц-іт-ы
масц-і-ць
масціч-н-ы
мат-ав-асць-□
мат-ав-ы
мат-а-лк-а
мат-а-льн-ы
мат-а-льн-я
мат-а-льшчык-□
мат-а-льшчыц-а
мат-а-нн-е
матар-ызав-а-ць
матар-ызацы-я
(матар-ызацый-а)
матар-ыст-□
матар-ыст-к-а
мат-а-ць
мат-к-ов-ы
матл-я-ць
мат-ну-ць
мат-ок-□
матор-а-буд-ав-а-нн-е
матор-а-буд-аў-ніч-ы
матор-н-ы
матрац-н-ы
матрос-к-а
матро[с-к]-і (матрос+ск+і)
матрыц-ав-а-нн-е
матрыц-ав-а-ць
матрыч-н-ы
мат-ушк-а
матч-ав-ы
мат-ч-ын-□
матыв-ав-а-нн-е
матыв-ав-а-ць
матыв-ацы-я (матыв-ацый-а)
матыв-іров-ач-н-ы
матыв-іроў-к-а
матыл-ёк-□
матыл-іц-а
матыль-к-ов-ы
матыч-анн-е
матыч-н-ы
матыч-ы-ць
матэмат-ык-□
матэмат-ык-а
матэмат-ыч-н-ы
матэры-я (матэрый-а)
матэры-ял-□ (матэрый-ал-□)
матэры-ял-а-зна-вец-□
(матэрый-ал-а-зна-вец-□)
матэры-ял-а-зна-ўств-а
(матэрый-ал-а-зна-ўств-а)
матэры-ял-ізав-а-ць
(матэрый-ал-ізав-а-ць)
матэры-ял-ізацы-я
(матэрый-ал-ізацый-а)

матэры-ял-ізм-□
(матэрый-ал-ізм-□)
матэры-ял-іст-□
(матэрый-ал-іст-□)
матэры-ял-іст-к-а
(матэрый-ал-іст-к-а)
матэры-ял-іст-ычн-а
(матэрый-ал-іст-ычн-а)
матэры-ял-іст-ычн-ы
(матэрый-ал-іст-ычн-ы)
матэры-ял-іс[ц-к]-і
(матэрый-ал-існ-к-і;
матэры+ял+іст+ск+і)
матэры-яль-н-а
(матэрый-аль-н-а)
матэры-яль-н-асць-□
(матэрый-аль-н-асць-□)
матэры-яль-н-ы
(матэрый-аль-н-ы)
маўк-лів-а
маўк-лів-асць-□
маўк-лів-ы
маўл-енн-е
маўч-а-нк-а (*ад* маўчаць)
маўч-а-нн-е
маўч-а-ць
маўч-к-ом
мах-∅-□
мах-ав-ы
мах-а-льн-ік-□
мах-а-нн-е
мах-а-ць
махн-а-ног-∅-і
махн-ат-асць-□
махн-ат-ы
мах-ну-ць
махр-ов-асць-□
махр-ов-ы
махр-ыст-ы
мац-ав-а-нн-е
мац-ав-а-ць
мац-а-нн-е
мац-а-ць
мацерык-ов-ы
мац-ер-ын-□
мац-н-е-ць
мац-унак-□
мац-яр-ын-ск-і
мац-яр-ын-ств-а
мачал-к-а
мачаль-н-ы
мач-а-льн-ы
мач-а-льшчык-□
мач-а-нн-е
мач-ах-а
мач-а-ць
мачт-ав-ы
мач-улішч-а
мач-ы-льн-ы
мач-ы-льн-я
мач-ы-льшчык-□
мач-ы-льшчыц-а
мач-ых-а
мач-ы-ць
мач-энн-е
машк-ар-а
маш-ок-□
маштаб-н-асць-□
маштаб-н-ы
машч-энн-е
машын-а-буд-ав-а-нн-е
машын-а-буд-аў-нік-□
машын-а-зна-ўств-а
машын-альн-а
машын-альн-асць-□
машын-альн-ы
машын-а-піс-∅-□
машын-а-піс-н-ы
машын-ізав-а-ць
машын-ізацы-я (машын-ізацый-а)
машын-іст-□ (*паравоза*)
машын-істк-а (*той, хто друкуе на пішучай машынцы*)
машын-к-а
машын-н-ы

маятнік-ав-ы
маяч-н-ы
маяч-ы-ць
мед-а-вар-∅-□
мед-а-вар-н-ы
мед-а-вар-н-я
мед-а-з-бор-∅-□
медал-іст-□
медал-іст-к-а
медаль-ер-□
медаль-ер-н-ы
медаль-ён-□
медаль-ён-н-ы
медаль-н-ы
мед-а-нос-∅-□
мед-а-нос-н-асць-□
мед-а-нос-н-ы
медзведз-ян-я
медз-е-плав-і-льн-ы
медз-е-плав-і-льшчык-□
медз-ян-ы
мед-н-а-лі-цей-н-ы
мед-н-а-лі-цей-шчык-□
мед-н-а-пра-кат-н-ы
мед-н-ік-□
мед-н-і[ц-к]-і
(мед+н+ік+ск+і)
мед-н-ы
медык-амент-озн-ы
медык-амент-ы
медыц-ын-а
медыц-ын-ск-і
медыч-н-ы
меж-ав-а-льн-ы
меж-ав-а-нн-е
меж-ав-а-ць
меж-ав-ік-□
меж-ав-ы
мезанін-н-ы
мездр-ават-ы
мезен-ец-□
мезен-ч-ык-□
мел-ав-ы
мелад-ыч-н-а
мелад-ыч-н-асць-□
мелад-ыч-н-ы
мел-іст-ы
меліяр-атар-□
меліяр-ацый-н-ы
меліяр-ацы-я (меліяр-ацый-а)
мел-к-а
мел-к-а-воддз-∅-е
мел-к-вод-н-ы
мел-к-а-дон-н-ы
мел-к-асць-□
мел-к-і
мелод-ык-а
мелод-ы-я (мелод-ый-а)
мель-∅-□
мельк-ам
мемуар-н-ы
мемуар-ыст-□
мемуар-ыст-к-а
мен-∅-а
мен-ав-ы
мензурач-н-ы
ментол-ав-ы
ментуз-ов-ы
мен-ш
мен-ш-асць-□
мен-ш-а-ць
мен-ш-ы
мер-∅-а
мер-а-нн-е
мер-а-прыем-ств-а
мер-а-ць
мерз-л-ат-а
мерз-ну-ць
мер-к-а
мерк-ав-а-нн-е
мерк-ав-а-ць
мерк-ну-ць
мер-н-а
мер-н-асць-□
мер-н-ы

мерыдыян-н-ы
мес-ів-а
местачк-ов-ец-□
местачк-ов-ы
месц-а-жы-хар-ств-а
месц-а-з-на-ходж-анн-е
месц-ам
месц-амі
месц-а-пра-бы-ва-нн-е
месц-ейк-а
мес-ці
месяч-н-а
месяч-н-ік-□
месяч-н-ы
месяч-ык-□
мет-∅-а
метад-ыст-□
метад-ыст-к-а
метад-ыч-н-а
метад-ыч-н-асць-□
метад-ыч-н-ы
метал-а-… – *першая частка складаных слоў:*
метал-а-а-прац-оў-к-а *і інш.*
метал-ізав-а-ць
метал-ізацы-я (метал-ізацый-а)
метал-іст-□
метал-ічн-ы
метал-ург-□
метал-ург-ічн-ы
метал-ург-і-я (метал-ург-ій-а)
метафар-ычн-а
метафар-ычн-асць-□
метафар-ычн-ы
мет-к-а (*прыслоўе*)
мет-к-асць-□
мет-к-і
метод-ык-а
метр-аж-□
метр-ов-ы
метр-ычн-ы
мет-чык-□
метыс-к-а
метыс-н-ы
метэар-ыт-□
метэар-ыт-н-ы
метэар-ычн-ы
метэор-н-ы
мех-ават-а
мех-ават-асць-□
мех-ават-ы
механ-а-з-бор-ач-н-ы
механ-а-з-бор-шчык-□
механ-ізав-а-ць
механ-ізатар-□
механ-ізатар-ск-і
механ-ізацы-я (механ-ізацый-а)
механ-ізм-□
механ-ік-□
механ-ік-а
механ-іч-н-а
механ-іч-н-асць-□
механ-іч-н-ы
мех-а-падобн-ы
мец-і-ць
ме-ць
мецэнат-к-а
мецэна[ц-к]-і (мецэнат+ск+і)
мецэна[ц-тв]-а
(мецэнат+ств+а)
мецэна[ц-тв]-ав-а-ць
(мецэнат+ств+ав+а+ць)
меч-анн-е
меч-а-падобн-ы
меш-а-лк-а
меш-к-ават-асць-□
меш-к-ават-ы
меш-к-авін-а
мешчан-ін-□
мёд-а-вар-энн-е
мёрз-л-асць-□
мёрз-л-ы
міг-а-льн-ы
міг-ам
міг-а-нн-е
міг-ат-лів-а

міг-ат-лів-ы
міг-а-ц-е-нн-е
міг-а-ц-е-ць (*ад* мігаць)
міг-а-ць
міг-ну-ць
міг-ц-е-нн-е
міг-ц-е-ць
між-аблас-н-ы
(між+абласт+н+ы)
між-брыгад-н-ы
між-ведам-асн-ы
(*параўн.* не-пад-ведам-н-ы)
між-від-ав-ы
між-воль-н-ы
між-гарод-н-і
між-зор-н-ы
між-народ-н-ы
між-нацы-яналь-н-ы
(між-нацый-аналь-н-ы)
між-планет-н-ы
між-плям-ен-н-ы
між-раддз-∅-е
між-рад-к-ов-ы
між-рад-н-ы
між-раён-н-ы
між-рэспублік-анск-і
між-рэч-н-ы
між-саюз-н-і[ц-к]-і
(між+саюз+н+ік+ск+і)
між-саюз-н-ы
між-сесі-ённ-ы (між-сесій-онн-ы)
між-цэх-ав-ы
мізар-н-е-ць
мізэр-н-а
мізэр-н-асць-□
мізэр-н-ы
міл-а
міл-ав-а-нн-е
міл-ав-а-ць
міл-ав-а-ць
міл-а-… – *першая частка складаных слоў:*
міл-а-від-н-асць-□ *і інш.*

міл-асц-ів-а
міл-асц-ів-ы
міл-асц-ін-а
міл-асць-□
міл-еньк-і
міліцый-н-ы
міліцы-я (міліцый-а)
міліцы-янер-□ (міліцый-анер-□)
міліцы-янер-ск-і
(міліцый-анер-ск-і)
міліцэй-ск-і
мільг-а-нн-е
мільг-а-ц-е-нн-е
мільг-а-ц-е-ць (*ад* мільгаць)
мільг-а-ць
мільён-н-ы
мільян-ер-□
мільярд-н-ы
мільярд-эр-□
міма-вол-і
міма-воль-н-а
міма-воль-н-асць-□
міма-воль-н-ы
міма-лёт-н-а
міма-лёт-н-асць-□
міма-лёт-н-ы
міма-ход-ам
міма-ходзь-∅
мім-ік-а
мім-іч-н-ы
мін-а-мёт-н-ы
мін-а-мёт-чык-□
мін-а-нос-ец-□
мін-а-нос-н-ы
мін-а-ць
мін-а-шук-а-льнік-□
мінераль-н-ы
мін-ёр-□
мін-ёр-н-ы
мінім-альн-а
мінім-альн-асць-□
мінім-альн-ы
мінім-ум-□

мін-ірав-а-нн-е
мін-ірав-а-ць
міністэр-ск-і
міністэр-ств-а
мініяцюр-н-а
мініяцюр-н-асць-□
мініяцюр-н-ы
мініяцюр-ыст-□
мініяцюр-ыст-к-а
мін-н-ы
мног-а
мінор-н-а
мінор-н-асць-□
мінор-н-ы
[мі-н]у-л-а-год-н-і
(мін+ну+л+а+год+н+і)
[мі-н]у-л-ы (мін+ну+л+ы)
мінус-ав-ы
мінут-к-а
мінут-н-ы
[мі-н]у-ўшчын-а
(мін+ну+ўшчын+а)
[мі-н]у-ць (мін+ну+ць)
[мі-н]-уч-асць-□
(мін+н+уч+асць+□)
[мі-н]-уч-ы (мін+н+уч+ы)
міраж-н-ы
мір-а-люб-ів-а
мір-а-люб-ів-асць-□
мір-а-люб-ів-ы
мір-а-люб-н-а
мір-а-люб-н-асць-□
мір-а-люб-н-ы
мірг-а-нн-е
мірг-ат-лів-ы
мірг-а-ць
мірг-ну-ць
мір-н-а
мір-н-ы
мір-ы-ць
міс-ач-к-а
міс-ач-н-ы
місі-я (місій-а)
місі-янер-□ (місій-анер-□)
місі-янер-к-а (місій-анер-к-а)
місі-янер-ск-і (місій-анер-ск-і)
місі-янер-ств-а (місій-анер-ств-а)
міс-к-а
міст-ык-□
міст-ык-а
міст-ыфікав-а-ць
міст-ыфікатар-□
міст-ыфікатар-ск-і
міст-ыфікацы-я (міст-ыфікацый-а)
міст-ыч-н-а
міст-ыч-н-асць-□
міст-ыч-н-ы
міткаль-н-ы
мітус-енн-е
мітус-лів-а
мітус-лів-асць-□
мітус-лів-ы
мітус-н-я
мітынг-ов-ы
міф-ічн-асць-□
міф-ічн-ы
мічман-ск-і
мішур-н-асць-□
мішур-н-ы
мле-нн-е
мле-ць
млеч-н-ы
мл-ів-а
млос-н-а (млост+н+а)
млос-н-асць-□ (млост+н+асць+□)
млос-н-ы (млост+н+ы)
млын-ав-ы
млын-ар-□
млын-ок-□
мл-яв-а
мл-яв-асць-□
мл-яв-е-ць
мл-яв-ы
мнаг-ават-а
мнаг-а-…, мног-а-… – *першыя часткі складаных слоў:*

мнаг-а-дзён-н-ы,
мног-а-галін-ов-ы *і інш.*
множ-н-асць-□
множ-н-ы
множ-ы-ць
мно-ств-а (множ+ств+а)
мов-а-вед-∅-□
мов-а-зна-вец-□
мов-а-зна-ўств-а
мов-а-твор-ч-асць-□
мов-а-твор-ч-ы
мод-н-а
мод-н-ы
мож-н-а
мок-ну-ць
мокр-а
молад-а
морд-ачк-а
моршч-ы-ць
мост-а-буд-ав-а-нн-е
мост-а-буд-аў-ніч-ы
мосц-ік-□
моташ-н-а
моташ-н-асць-□
моташ-н-ы
моўк-ну-ць
моў-н-ы
моўч-к-і
мох-ав-ы
моц-н-а
моц-н-асць-□
моц-н-ы
моч-ан-ы
мочк-ав-ы
мро-і (мрой-і)
мро-і-ць (мрой-і-ць)
мрой-н-ы
мсц-ів-а
мсц-ів-асць-□
мсц-ів-ец-□
мсц-ів-іц-а
мсц-ів-ы
муар-ав-ы
мудр-а
мудр-асць-□
мудр-эц-□
мудр-э-ць
муж-аў-□
муж-н-а
муж-н-асць-□
муж-н-е-ць
муж-н-ы
муж-чын-а
муж-чын-ск-і
мужы[ц-к]-і (мужык+ск+і)
мужыч-к-а
музей-н-ы
музе-я-зна-вец-□
(музей-а-зна-вец-□)
музе-я-зна-ўств-а
(музей-а-зна-ўств-а)
музе-я-зна-ўч-ы
(музей-а-зна-ўч-ы)
музіц-ырав-а-нн-е
музіц-ырав-а-ць
музык-а-вед-∅-□
музык-а-зна-ўств-а
музык-альн-асць-□
музык-альн-ы
музык-ант-□
музык-ан[ц-к]-і
(музык+ант+ск+і)
музык-аў-□
музыч-н-а
музыч-н-асць-□
музыч-н-ы
мук-∅-а
мук-а-мол-∅-□
мук-а-моль-н-ы
мук-а-моль-н-я
мук-а-сей-∅-□
мук-а-сей-н-ы
мул-к-а
мул-к-ават-ы
мул-к-асць-□

мул-к-і
мультыплік-атар-□
мультыплік-ацый-н-ы
мультыплік-ацы-я
(мультыплік-ацый-а)
муляж-ыст-□
муляр-ск-і
муляр-ств-а
мул-я-ць
мундзір-н-ы
мундзір-чык-□
муніцыпал-ізав-а-ць
муніцыпал-ізацы-я
(муніцыпал-ізацый-а)
муніцыпал-ітэт-□
муніцыпаль-н-ы
мур-ав-а-нн-е
мур-ав-а-н-ы
мур-ав-а-ць
мураж-ок-□
мураў-к-а
мураш-к-а
мураш-нік-□
мураш-ын-ы
мур-ка-нн-е
мур-ка-ць
мурлы-ка-нн-е
мурлы-ка-ць
мурож-н-ы
мур-оў-к-а
мус-і-ць
мускат-н-ы
мускул-атур-а
мускул-іст-асць-□
мускул-іст-ы
мускуль-н-ы
мут-н-а
мут-н-ават-ы
мут-н-асць-□
мут-н-е-ць
мут-н-ы
мух-а-лоў-к-а
муц-і-ць

муць-∅-□
муч-ан-ік-□
муч-ан-іц-а
муч-ан-ы
муч-н-іст-асць-□
муч-н-іст-ы
муч-н-ы
муч-ы-цель-□
муч-ы-цель-к-а
муч-ы-ць
муч-энн-е
муш-к-а (*муха*)
мушк-а (*ружжа*)
мушкет-н-ы
мушкец-ёр-□
муштр-∅-а
муштр-ав-а-нн-е
муштр-ав-а-ць
муштр-оў-к-а
муштук-ов-ы
муш-ын-ы
мы-еч-н-ы (мый-эч-н-ы)
мый-н-я
мый-шчык-□
мый-шчыц-а
мы-ка-нн-е
мы-ка-ць
мыл-а-вар-∅-□
мыл-а-вар-н-ы
мыл-а-вар-н-я
мыл-а-вар-энн-е
мыл-і-ць
мыл-к-асць-□
мыл-к-і
мыль-н-іц-а
мыль-н-ы
мысл-енн-а
мысл-енн-е
мысл-енн-ы
мысл-і-цель-□
мысл-і-цель-н-ы
мысл-і-ць

мыс-ок-□
мы-цц-ё
мы-ць
мыч-а-нн-е
мыч-а-ць
мыш-а-лоў-к-а
мыш-ан-я
мыш-аст-ы
мыш-к-а
мыш-к-ав-а-нн-е
мыш-ын-ы
мэбель-шчык-□
мэбл-ев-ы
мэбл-іроў-к-а
мэбл-яв-а-ць
мэ-ка-нн-е
мэт-ав-ы
мэт-а-з-год-н-а
мэт-а-імк-лів-асць-□
мэт-а-на-кір-ав-а-н-асць-□
мэт-а-на-кір-ав-а-н-ы
мядзведз-ін-а
мядзведз-іх-а
мядзведз-іц-а
мядзвед-нік-□
мядз-як-□
мяд-н-енн-е
мяд-ов-ы
мяд-ок-□
мяздр-ов-ы
мяздр-ы-ць
мяздр-энн-е
мяк-аць-□
мяк-еньк-і
мяк-ін-а
мяк-ін-н-ік-□
мяк-ін-н-ы
мяк-іш-□
мяк-к-а
мяк-к-ават-ы
мяк-к-а-сард-эч-н-асць-□
мяк-к-а-сард-эч-н-ы
мяк-к-асць-□
мяк-к-а-цел-асць-□
мяк-к-а-цел-ы
мяк-к-і
мяк-ну-ць
мяк-ч-эй
мяк-ч-эйш-ы
мяк-ч-э-ць
мял-е-ць
мя-лк-а
мяльк-ом
мяль-ч-эй
мяль-ч-эйш-ы
мямл-і-ць
мянт-ашк-а
мянц-і-ць
мян-я-л-а
мян-я-льн-ы
мян-я-льшчык-□
мян-я-ць
мярэж-к-а
мярэж-к-ав-ы
мярэж-ыст-ы
мяс-а-камбін-ат-□
мяс-а-кансерв-ав-ы
мяс-а-на-рыхтоў-к-і
мяс-а-прадукт-ы
мяс-а-руб-к-а
мяс-і-лк-а
мяс-і-льн-ы
мяс-і-льшчык-□
мяс-і-льшчыц-а
мяс-іст-асць-□
мяс-іст-ы
мяс-і-ць
мяс-н-ы
мясц-ін-а
мясц-ін-к-а
мясц-і-ць
мясц-ов-асць-□
мясц-ов-ы
мят-л-а
мят-л-ішч-а

мят-н-ы
мяў-ка-нн-е
мяў-ка-ць
мяцеж-н-асць-□
мяцеж-н-ік-□
мяцеж-н-іц-а
мяцеж-н-і[ц-к]-і
(мяцеж+н+ік+ск+і)
мяцеж-н-ы
мяц-ел-іц-а
мяц-ёл-к-а

мя-ць
мяч-ык-□
мяш-а-нк-а
мяш-а-ць
мяш-ок-□
мяш-оч-ак-□
мяш-оч-н-ы
мяшчан-к-а
мяшчан-ск-і
мяшчан-ств-а

## Н

на-абапал
на-абяц-а-ць
на-акон-н-ы
на-ар-а-ць
на-арф-ав-а-ць
на-бав-і-ць
на-бак-ір
на-бал-е-л-ы
на-бал-е-ць
на-бальзам-ірав-а-ць
на-бас-а-нож-∅
набат-н-ы
на-баў-к-а
на-баўл-я-ць
на-бег-∅-□
на-бег-чы
на-бедр-ан-ы
на-бі-ва-льшчык-□
на-бі-ва-льшчыц-а
на-бі-ва-нн-е
на-бі-ва-ць
на-бі-в-ач-н-ы
на-бір-а-нн-е
на-бір-а-ць
на-бі-ў-к-а
на-бі-ў-н-ы
на-бі-ць
на-бліж-а-ць
на-бліж-энн-е
на-бліз-і-ць
на-блыт-а-ць
на-бож-н-а
на-бож-н-асць-□
на-бож-н-ы
на-бой-к-а
на-бок-∅
на-бор-∅-□
на-бор-н-ы
на-бор-шчык-□
на-бор-шчыц-а
на-брак-а-нн-е
на-брак-а-ць
на-брак-л-ы
на-брак-ну-ць
на-бр-а-ць
на-брудз-і-ць
на-брынь-ва-ць
на-брын-я-л-ы
на-брын-я-ць
на-брыс-ці
на-буд-ав-а-ць
на-бух-а-нн-е
на-бух-а-ць
на-бух-а-ць
на-бух-л-ы
на-бух-ну-ць
на-бы-ва-ць
на-бы-т-ак-□
на-бы-т-чык-□
на-бы-цц-ё
на-бы-ць
на-бэрс-а-ць
на-бяг-а-ць
на-бял-і-ць
на-бярэж-н-ы
нав-а-бр-а-н-ец-□
нав-а-бр-а-н-ск-і
нав-а-год-н-і
на-вадз-і-ць
на-вад-н-енн-е
на-вад-н-і-ць
на-вад-н-ы
на-вад-н-я-ць
на-важ-ва-ць
на-важ-ы-ць
на-ваз-і-ць
на-вакол
на-ваколл-∅-е
на-ваколь-н-ы
на-вакс-ав-а-ць
на-вал-∅-□
на-вал-∅-а
на-вал-ам
навалач-к-а (*гіст.* на-валач-к-а)
на-вал-і-ць
на-вал-к-а

на-валь-ва-нн-е
на-валь-ва-ць
навальніч-н-ы
нав-а-мод-н-ы
на-вар-∅-□
на-вар-ва-нн-е
на-вар-ва-ць
на-вар-н-ы
на-вароч-а-ць
на-вароч-ва-ць
на-варс-ав-а-ць
на-вар-ыст-ы
на-вар-ы-ць
нав-а-сел-ец-□
нав-а-селл-е
нав-а-сель-н-ы
нав-а-сёл-∅-□
нав-а-сёл-к-а
на-васк-ав-а-ць
на-васк-оў-ва-нн-е
на-васк-оў-ва-ць
на-вастр-ы-ць
нав-атар-□
нав-атар-ск-і
нав-атар-ств-а
на-вашч-ы-ць
на-вед-а-нн-е
на-вед-а-ць
на-вед-ва-льнік-□
на-вед-ва-льніц-а
на-вед-ва-льні[ц-к]-і
(на+вед+ва+льнік+ск+і)
на-вед-ва-нн-е
на-вед-ва-ць
на-вез-ці
на-вей-ва-ць
нав-ейш-ы
на-век-∅
навел-іст-□
навел-іст-ычн-ы
на-верб-ав-а-ць
на-верс-е
на-верх-∅
на-вес-∅-□
на-вес-і-ць
на-вес-к-а
на-вес-ці
на-веч-н-а
на-веш-а-ць
на-веш-ва-нн-е
на-веш-ва-ць
на-ве-я-ць (на-вей-а-ць)
на-вёрст-ва-ць
на-ві-ва-нн-е
на-ві-ва-ць
навігат-ар-□
навігац-ый-н-ы
навігац-ы-я (навігац-ый-а)
нав-ізн-а
нав-ін-а
нав-ін-к-а
на-вінц-і-ць
на-вінч-ва-нн-е
на-вінч-ва-ць
на-віс-а-ць
на-віс-л-ы
на-віс-ну-ць
на-вісь-∅-□
на-ві-ць
нав-ічок-□
на-воб-мац-ак
на-водз-і-ць
на-вод-к-а
на-вод-маш-∅
на-вод-чык-□
на-вод-чыц-а
на-водшыб-е
на-вож-ва-ць
на-воз-і-ць
на-вокал (*прыслоўе, прыназоўнік*)
на-вокал-а
на-вор-ва-ць
на-востр-ыва-нн-е
на-востр-ыва-ць
на-воч-н-ік-□
на-воч-н-ы

на-вуголь-н-ік-□
на-вуголь-н-ы
на-вудз-і-ць
на-вук-∅-а
на-вук-ов-ы
на-вуч-а-льн-ы
на-вуч-а-нн-е
на-вуч-а-ць
на-вуч-ы-ць
на-вуч-энец-□
на-вуч-энк-а
на-вуч-энск-і
на-вуш-нік-□
на-вык-∅-□
на-вык-а-ць
на-вык-ну-ць
на-вы-перад-к-і
на-вы-раст-∅
на-вы-цяж-к-у
на-вэндж-ва-ць
на-вэндз-і-ць
на-вя-ва-ць
на-вядз-енн-е
на-вяз-а-ць
на-вяз-ва-нн-е
на-вяз-ва-ць
на-вя-л-і-ць
(на+вяд+л+і+ць)
на-вя-ль-ва-ць
(на+вяд+ль+ва+ць)
на-вярб-оў-ва-ць
на-вяр-ну-ць
на-вярэдж-ва-ць
на-вярэдз-і-ць
на-вяс-н-ы
на-габл-ёў-ва-ць
на-габл-яв-а-ць
на-гавар-ва-ць
на-гавар-ы-ць
на-гавор-∅-□
на-гавор-ва-ць
на-гавор-н-ы
на-гад-ав-а-ць
на-гад-а-ць
на-гад-ва-нн-е
на-гад-ва-ць
на-гад-оў-ва-ць
на-гал-а
на-гандл-яв-а-ць
на-ган-я-ць
на-гар-∅-□
на-гарадз-і-ць
на-гар-а-ць
на-гар-ва-ць
на-гар-ну-ць (на+гарт+ну+ць)
на-гар-н-ы
на-городж-ва-ць
на-гарэз-ав-а-ць
на-гар-э-ць
на-гатав-а-ць
на-гафр-ырав-а-ць
на-гач-ва-ць
на-гі-н-а-нн-е
(на+гіб+н+а+нн+е)
на-гі-н-а-ць
(на+гіб+н+а+ць)
на-гладж-ва-ць
на-гладз-і-ць
на-гледж-ва-ць
на-гледз-е-ць
на-глух-а
на-гляд-∅-□
на-гляд-а-льн-асць-□
на-гляд-а-льн-ік-□
на-гляд-а-льн-іц-а
на-гляд-а-льн-і[ц-к]-і
(на+гляд+а+льн+ік+ск+і)
на-гляд-а-льн-ы
на-гляд-а-нн-е
на-гляд-а-ць
на-гляд-ва-ць
на-гляд-н-а
на-гляд-н-асць-□
на-гляд-н-ы
на-гляд-чык-□
на-гляд-чыц-а
на-гляд-чы[ц-к]-і
(на+гляд+чык+ск+і)

на-глянц-ав-а-ць
на-гна-енн-е (на-гнай-энн-е)
на-гна-і-ць (на-гнай-і-ць)
на-гн-а-ць
на-г-ну-ць (на+гіб+ну+ць)
на-гняс-ці
на-гнят-а-нн-е
на-гнят-а-ць
на-гон-∅-□
на-гон-к-а
га-гор’-е (на-гор-й-э)
на-гор-н-ы
на-горт-ва-ць
на-граб-а-льшчык-□
на-граб-а-льшчыц-а
на-граб-а-нн-е
на-граб-а-ць
на-гра-ва-льн-ы
на-гра-ва-льшчык-□
на-гра-ва-льшчыц-а
на-гра-ва-нн-е
на-гра-ва-ць
на-грав-ірав-а-ць
на-гран-і-ць
на-граф-і-ць
на-груб-і-ць
на-груб-і-ян-і-ць
на-грувасц-і-ць
на-грувашч-анн-е
на-грувашч-ва-нн-е
на-грувашч-ва-ць
на-груд-н-ік-□
на-груд-н-ы
на-груж-а-ць
на-груз-ач-н-ы
на-груз-і-ць
на-груз-к-а
на-груз-чык-□
на-грыз-а-ць
на-грыз-ці
на-грым-ірав-а-ць
на-грэб-ці
на-грэ-т-асць-□
на-грэ-ў-∅-□
на-грэ-ць
на-гул-∅-□
на-гуль-ва-ць
на-гуль-н-ы
на-гул-я-ць
на-да-ва-ць
нада-др-а-ць
над-азёр-н-ы
на-да-і-ць (на-дай-і-ць)
над-акон-н-ы
на-дакуч-а-ць
на-дакуч-ва-нн-е
на-дакуч-ва-ць
на-дакуч-лів-асць-□
на-дакуч-лів-ы
на-дакуч-ы-ць
на-дал-ей
на-да-нн-е
нада-рв-а-н-асць-□
нада-рв-а-ць
на-дар-ы-ць
на-даста-ва-ць
на-даўб-ень-□
на-даўж-эй
на-да-ць
над-бав-ач-н-ы
над-бав-і-ць
над-баў-к-а
над-баўл-я-ць
на-дб-а-ць
над-бі-ва-ць
над-бі-ць
над-броў-н-ы
над-буд-ав-а-ць
над-буд-ов-∅-а
над-буд-оў-ва-ць
над-буд-оў-ч-ы
на-дв-а-е (на-дв-ай-э)
над-варот-н-я
над-ветр-ан-ы
над-вечар-∅-□
над-ві-ва-ць
над-ві-ць

над-воблач-н-ы
над-вод-н-ы
на-дв-о-е (на-дв-ой-э)
на-двор-ак-□
надвор’-е
(надвор-й-э); *гіст.* на-двор’-е)
на-двор-н-ы
над-воч-н-ы
над-вяз-а-ць
над-вяз-ва-нн-е
над-вяз-ва-ць
над-вяз-к-а
над-вячор-ак-□
над-вячор-к-ав-ы
над-вячор-к-ам
над-вячэр-н-і
над-гар-э-ць
над-гі-н-а-ць
(над+гіб+н+а+ць)
над-глеб-ав-ы
над-глот-ач-н-ы
над-гляд-а-ць
над-гляд-чык-□
над-гляд-чыц-а
над-гні-ва-ць
над-гні-с-ці
над-гні-ць
над-гор-н-ы
над-грыз-а-ць
над-грыз-ці
над-да-ва-ць
над-дзвяр-н-ы
над-дзёўб-ва-ць
над-дзір-а-ць
над-дзяўб-а-ць
над-дзяўб-ці
над-доль-н-ы
над’-ес-ці
над-жал-і-ць
надзей-н-а
надзей-н-асць-□
надзей-н-ы
на-дзел-∅-□
на-дзель-н-ы
над-зем’-е (над-зем’-й-э)
над-зем-н-ы
на-дзе-ць
надзе-я (надзей-а)
на-дзён-н-асць-□
на-дзён-н-ы
на-дзёўб-ва-ць
на-дзім-а-н-асць-□
на-дзім-а-нн-е
на-дзім-а-ць
на-дзір-а-ць
на-дзьм-у-ць
на-дзя-ва-нн-е
на-дзя-ва-ць
на-дзял-енн-е
на-дзял-і-ць
на-дзял-я-ць
на-дзяўб-а-ць
на-дзяўб-ці
над-кален-н-ы
над-кал-о-ць
над-кап-а-ць
над-касц-яв-ы
над-клас-ав-асць-□
над-клас-ав-ы
над-кле-і-ць (над-клей-і-ць)
над-клей-ва-нн-е
над-клей-ва-ць
над-клей-к-а
над-клёп-ва-нн-е
над-клёп-ва-ць
над-клёп-к-а
над-кляп-а-ць
над-кол-∅-□
над-кол-ва-нн-е
над-кол-ва-ць
над-коп-ва-ць
над-кус-∅-□
над-кус-ва-нн-е
над-кус-ва-ць
над-кус-і-ць
над-лам-а-ць

над-лапатач-н-ы
над-лі-ва-ць
над-лі-ць
над-лоб’-е (над-лоб-й-э)
над-лоб-н-ы
над-локц-ев-ы
над-лом-∅-□
над-лом-ва-нн-е
над-лом-ва-ць
над-ломл-ен-асць-□
над-ломл-іва-ць
над-луп-і-ць
над-лупл-іва-ць
над-мер-н-асць-□
над-мер-н-ы
над-мур-оў-к-а
над-нацы-яналь-н-ы
(над-нацый-аналь-н-ы)
на-дой-∅-□
на-дой-ва-ць
на-дом-н-ік-□
на-дом-н-іц-а
на-дор-ва-ць
на-доўг-а
над-пал-і-ць
над-палуб-н-ы
над-паль-ва-ць
над-пар-о-ць
над-пі-ва-ць
над-піл-ав-а-ць
над-піл-оў-ва-нн-е
над-піл-оў-ва-ць
над-піл-оў-к-а
над-піс-∅-□
над-піс-а-ць
над-піс-ва-нн-е
над-піс-ва-ць
над-піс-к-а
над-пі-ць
над-пор-ва-ць
над-раб-і-ць
над-рабл-я-ць
на-драб-н-і-ць
над-рад-к-ов-ы
над-раз-а-нн-е
над-раз-а-ць
на-дра-і-ць (на-драй-і-ць)
на-драй-ва-ць
на-драп-а-ць
на-драп-ва-ць
на-др-а-ць
над-роб-к-а
над-робл-іва-нн-е
над-робл-іва-ць
на-друк-ав-а-нн-е
на-друк-ав-а-ць
над-рыв-а-нн-е
над-рыв-а-ць
над-рыв-іст-ы
над-рыў-∅-□
над-рыў-н-а
над-рыў-н-ы
над-рэз-∅-□
над-рэз-а-ць
над-рэч-н-ы
над-сек-чы
над-сеч-к-а
над-став-і-ць
над-стаў-к-а
над-стаўл-я-ць
над-стаў-н-ы
над-струг-а-ць
над-струг-ва-ць
над-сыл-а-ць
над-сып-а-ць
над-сып-а-ць
над-сып-к-а
над-сяк-а-нн-е
над-сяк-а-ць
над-[ся-ч]ы (над+сяк+чы)
над-тач-ы-ць
над-точ-ва-нн-е
над-точ-ва-ць
над-точ-к-а
над-трэс-ну-т-ы
на-дуб-і-ць
на-дум-а-н-а

на-дум-а-н-асць-□
на-дум-а-ць
на-дум-ва-ць
на-душ-ы-ць
над-хмар’-е (над-хмар-й-э)
над-хмар-н-ы
над-чалавек-□
над-чалавеч-∅-ы
над-час-а-ць
над-чэс-ва-ць
над-шахт-ав-ы
над-шы-ва-нн-е
над-шы-ва-ць
над-шы-ў-к-а
над-шы-ць
на-дым-е-ць
на-дым-і-ць
над-ыс-ці
на-дых-а-ць
working-ход-∅-□
нады-ходз-і-ць
на-езд-∅-□
на-ездз-і-ць
на-ех-а-ць
на-ём-н-ік-□
на-ём-н-і[ц-к]-і
(на+ём+нік+ск+і)
на-ём-н-і[ц-тв]-а
(на+ём+нік+ств+а)
на-ём-н-ы
на-жав-а-ць
наж-ав-ы
на-жа-ць
наждач-н-ы
наждач-ок-□
нажн-іц-ы (*параўн.* ножан-к-і)
наж-н-ы
нажовач-н-ы
на-жоў-ва-ць
на-жы-в-∅-а
на-жы-ва-ць
на-жын-∅-□
на-жын-а-ць
на-жы-т-н-ы
на-жы-ў-н-ы
на-жы-ць
на-заказ-ва-ць
назал-я-нн-е
назал-я-ць
на-заўжды
на-заўсёды
на-заўтра
на-зв-∅-а
на-зв-а-ць
наздр-ават-асць-□
наздр-ават-ы
наздр-ат-ы
на-зелян-і-ць
на-зем-н-ы
на-зір-а-льн-асць-□
на-зір-а-льн-ік-□
на-зір-а-льн-іц-а
на-зір-а-льн-і[ц-к]-і
(на+зір+а+льн+ік+ск+і)
на-зір-а-льн-ы
на-зір-а-нн-е
на-зір-а-ць
на-зір-к-ам
на-зл-о
на-знач-а-ць
на-знач-ы-ць
на-знач-энн-е
назой-лів-а
назой-лів-асць-□
назой-лів-ы
назол-∅-а
назоль-н-ы
на-зуб-і-ць
на-зубл-іва-нн-е
на-зубл-іва-ць
на-зуб-ок
на-зыв-а-нн-е
на-зыв-а-ць
наіўн-а
наіўн-асць-□
най-бліж-эйш-ы

най-бол-ей
най-боль-ш
най-боль-ш-ы
най-выш-эйш-ы
най-вял-ік-ш-ы
най-горш-ы
на-йгр-ава-ць
на-йгр-а-ць
на-йгр-ыш-□
най-карац-ейш-ы
най-леп-ш-ы
най-ляг-ч-эйш-ы
на-йм-∅-□
на-йм-а-льнік-□
на-йм-а-льніц-а
на-йм-а-льні[ц-к]-і
(на+йм+а+льнік+ск+і)
на-йм-а-нн-е
на-йм-а-ць
на-йм-енн-е
най-мен-ш
най-мен-ш-ы
на-йм-іт-□
на-йм-ічк-а
най-перш-ы
най-страж-эйш-ы
на-йс-ці
на-кав-а-ць
на-каз-∅-□
на-кал-∅-□
на-кален-н-ік-□
на-кален-н-ы
на-кал-і-ць
на-кал-о-ць
на-калоч-ва-ць
на-калуп-а-ць
на-камар-нік-□
на-камеч-ва-ць
на-камяч-ы-ць
на-канеч-н-ік-□
на-канеч-н-ы
на-кап-а-ць
на-кап-а-ць
на-кап-ва-ць
на-кап-і-ць
на-капл-енн-е
на-капл-я-ць
на-капц-і-ць
на-карм-і-ць
на-карч-ав-а-ць
на-карч-оў-ва-ць
на-кас-ав-а-ць
на-кас-і-ць
на-кат-∅-□
на-кат-ам
на-кат-ва-нн-е
на-кат-ва-ць
на-кат-к-а
на-кат-н-ы
на-кат-чык-□
на-кат-чыц-а
на-кац-і-ць
на-кач-а-ць
на-кач-ва-нн-е
на-кач-ва-ць
на-квас-і-ць
на-кваш-ва-нн-е
на-кваш-ва-ць
на-кід-∅-□
на-кід-а-ць
на-кід-ва-нн-е
на-кід-ва-ць
на-кід-к-а
на-кід-н-ы
на-кі-ну-ць (на+кід+ну+ць)
на-кіп-∅-□
на-кіп-а-нн-е
на-кіп-а-ць
на-кіп-е-ць
на-кіп-яц-і-ць
на-кір-ав-а-н-асць-□
на-кір-ав-а-нн-е
на-кір-ав-а-ць
на-кір-оў-ва-нн-е
на-кір-оў-ва-ць
на-кіс-а-нн-е
на-кіс-а-ць

на-кіс-ну-ць
на-клад-а-нн-е
на-клад-а-ць
на-клад-ва-нн-е
на-клад-ва-ць
на-клад-к-а
на-клад-н-ы
на-клад-чык-□
на-клад-чыц-а
на-клас-ці
на-кле-і-ць (на-клей-і-ць)
на-клей-ва-нн-е
на-клей-ва-ць
на-клей-к-а
на-клей-шчык-□
на-клей-шчыц-а
на-клёп-ва-нн-е
на-клёп-ва-ць
на-клёп-к-а
на-клёў-ва-нн-е
на-клік-а-ць
на-клік-а-ць
на-кляп-а-ць
на-кол-ва-нн-е
на-кол-ва-ць
на-кол-к-а
на-кольк-і
на-коп-ва-ць
на-копл-іва-ць
на-кормл-іва-ць
на-кос-н-ы (на+кост+н+ы)
на-коў-ва-ць
на-коў-к-а
на-коч-ва-нн-е
на-коч-ва-ць
на-кош-ва-ць
на-кп-і-ць
на-крад-а-ць
на-крад-ва-ць
на-крап-а-ць
на-крап-ва-нн-е
на-крап-ва-ць
на-крас-ці
на-кро-і-ць (на-крой-і-ць)
на-крой-ва-ць
на-крухмал-і-ць
на-крухмаль-ва-ць
на-круц-і-ць
на-круч-ва-нн-е
на-круч-ва-ць
на-кры-ва-нн-е
на-кры-ва-ць
на-крыж-∅
на-кры-ў-к-а
на-кры-ць
на-крыч-а-ць
на-крыш-ы-ць
на-крэсл-і-ць
на-кульг-ва-нн-е
на-кульг-ва-ць
на-куп-і-ць
на-купл-я-ць
на-кур-ва-ць
на-кур-э-ць
на-кус-а-ць
на-кус-ва-нн-е
на-кус-ва-ць
на-кус-і-ць
на-лав-і-ць
на-лад-ач-н-ы
на-ладж-ан-асць-□
на-ладж-ва-нн-е
на-ладж-ва-ць
на-ладз-і-ць
на-лад-к-а
на-лад-чык-□
на-лад-чыц-а
на-лаж-ы-ць
на-лаж-энн-е
на-лаз-і-ць
на-лак-ірав-а-ць
на-лак-іроў-ва-ць
на-лакот-нік-□
на-лам-а-ць
на-лапат-а-ць
на-лев-а
на-лег-чы
на-ледзь-∅-□

належ-а-ць
належ-н-асць-□
належ-н-ы
на-лез-ці
на-лепл-іва-ць
на-лёт-∅-□
на-лёт-ва-ць
на-лёт-чык-□
на-лёт-чыц-а
на-лі-ва-нн-е
на-лі-ва-ць
на-лі-в-ач-н-ы
на-лік-∅-□
на-лін-е-і-ць (на-лін-ей-і-ць)
на-лін-ей-ва-ць
на-ліп-а-нн-е
на-ліп-а-ць
на-ліп-л-ы
на-ліп-ну-ць
на-лі-ў-∅-□
на-лі-ў-к-а
на-лі-ў-н-ы
на-лі-ць
на-ліч-а-ць
на-ліч-ва-ць
на-ліч-ы-ць
на-лоб-н-ік-□
на-лоб-н-ы
на-лом-ва-ць
на-ломл-іва-ць
на-луз-а-ць
на-луз-ва-ць
на-луп-і-ць
на-лушч-ва-ць
на-лушч-ы-ць
на-ляг-а-нн-е
на-ляг-а-ць
на-ляп-і-ць
на-лят-а-ць
на-ляц-е-ць
на-маг-а-нн-е
на-маг-а-ць
на-магніц-і-ць
на-магніч-ва-нн-е
на-магніч-ва-ць
на-маз-а-ць
на-маз-ва-нн-е
на-маз-ва-ць
на-маз-к-а
на-мазол-і-ць
на-мазоль-ва-ць
на-мак-а-нн-е
на-мак-а-ць
на-малац-і-ць
на-малот-∅-□
на-мал-о-ць
на-малоч-ва-нн-е
на-малоч-ва-ць
на-мал-яв-а-ць
на-ман-і-ць
на-маразь-∅-□
на-марын-ав-а-ць
на-марын-оў-ва-ць
на-мар-ы-ць
на-масл-іва-нн-е
на-масц-і-ць
на-мат-а-ць
на-мац-а-ць
на-мац-ва-нн-е
на-мац-ва-ць
на-мач-ы-ць
на-меж-ав-а-ць
наменклатур-н-ы
на-мер-∅-□
на-мер-а-ць
на-мер-ва-ць
на-мерз-ну-ць
на-мес-нік-□ (на+мест+нік+□)
на-мес-ніц-а (на+мест+ніц+а)
на-мес-ні[ц-к]-і
(на+мест+нік+ск+і)
на-мес-ні[ц-тв]-а
(на+мест+нік+ств+а)
на-мес-ці
на-мет-к-а
на-мец-і-ць
на-мець-∅-□
на-меш-ва-ць

намёк-∅-□ (*гіст.* на-мёк-∅-□)
на-мёрз-л-ы
на-мёт-к-а
наміналь-н-а
наміналь-н-ы
на-мін-а-ць
на-мнаж-а-ць
на-мнаж-энн-е
на-мног-а
на-мок-л-ы
на-мок-ну-ць
на-мол-ва-ць
на-морд-нік-□
на-моршч-ва-ць
на-моршч-ы-ць
на-мот-ва-нн-е
на-мот-ва-ць
на-мот-к-а
на-моч-ва-нн-е
на-моч-ва-ць
на-мошч-ва-нн-е
на-мошч-ва-ць
на-мул-∅-□
на-муль-ва-нн-е
на-муль-ва-ць
на-мул-я-ць
на-муц-і-ць
на-муч-ы-ць
на-муштр-ав-а-ць
на-мы-ва-нн-е
на-мы-ва-ць
на-мыл-і-ць
на-мыль-ва-нн-е
на-мыль-ва-ць
на-мысел-∅-□
на-мысл-і-ць
на-мы-ў-н-ы
на-мы-ў-шчык-□
на-мы-ў-шчыц-а
на-мы-ць
на-мяж-оў-ва-ць
на-мяк-а-ць (*мяккі*)
намяк-а-ць (*намёк*)
на-мяк-л-ы
на-мяк-ну-ць
на-мянц-і-ць
на-мян-я-ць
на-мяр-а-ць
на-мярз-а-ць
на-мяс-і-ць
на-мят-а-ць
на-мя-ць
на-мяч-а-ць
на-мяш-а-ць
на-нав-а
на-нас-і-ць
на-нач-∅
на-ніз-а-ць
на-ніз-ва-нн-е
на-ніз-ва-ць
на-нов-а
на-нос-∅-□
на-нос-і-ць
на-нос-н-ы
на-нош-ва-ць
на-няс-енн-е
на-ня-ць
на-пад-∅-□
на-пад-а-ць
на-пад-а-ць
на-пад-к-і
на-пазыч-а-ць
на-па-і-ць (на-пай-і-ць)
на-пай-ва-нн-е
на-пай-ва-ць
на-пай-к-а
на-пак-ав-а-ць
на-паказ-∅
на-пак-оў-ва-нн-е
на-пак-оў-ва-ць
на-пал-∅-□
на-пал-ав-ін-у
на-паласк-а-ць
на-пал-ен-асць-□
на-паліра-в-а-ць
на-паліроў-ва-ць
на-пал-і-ць

на-палоск-ва-ць
на-палох-а-ць
на-пал-о-ць
на-паль-ва-нн-е
на-паль-ва-ць
на-паль-н-ы
на-паляв-а-ць
на-памадз-і-ць
на-памін-∅-□
на-памін-ак-□
на-памін-а-нн-е
на-памін-а-ць
на-памп-оў-ва-нн-е
на-памп-оў-ва-ць
на-пар-ва-ць
на-пар-нік-□
на-пар-ніц-а
на-пар-о-ць
напарстк-ав-ы
на-пар-ы-ць
на-пас-∅-□
на-пас-в-і-ць
на-пас-ці
на-пас-ць-□
на-патк-а-ць
на-паўз-а-нн-е
на-паўз-а-ць
на-паўз-ці
на-паўн-енн-е
на-паўн-я-ць
на-пац-е-ць
на-па-я-ць (на-пай-а-ць)
на-пера-бой-∅
на-пера-вес-∅
на-пера-гон-к-і
на-перад-∅
на-перадз-е
на-перак-ор-∅
(*параўн.* пярэч-ы-ць)
на-пера-лом-ва-ць
на-пера-рэз-∅
на-перч-ы-ць
на-пе-ў-∅-□
на-пе-ў-н-асць-□
на-пе-ў-н-ы
на-пе-ць
на-піл-ав-а-ць
на-піл-оў-ва-ць
на-піль-нік-□
на-піль-нік-ав-ы
на-піль-ніч-ак-□
на-пін-а-нн-е
на-пін-а-ць
на-піс-а-нн-е
на-піс-а-ць
на-пі-так-□
на-піх-а-нн-е
на-піх-а-ць
на-піх-ва-нн-е
на-піх-ва-ць
на-плав-ач-н-ы
на-плав-і-ць
на-пласт-ав-а-нн-е
на-пласт-ав-а-ць
на-пласт-оў-ва-нн-е
на-пласт-оў-ва-ць
на-плаўл-я-ць
на-плаў-н-ы
на-плес-ці
на-плеч-н-ік-□
на-плеч-н-ы
на-плы-ва-ць
на-плы-с-ці
на-плы-ў-∅-□
на-плы-ць
на-плюх-а-ць
на-плюх-ва-ць
на-пляск-а-ць
на-плят-а-ць
на-[п-н]у-ць (на+пн+ну+ць)
на-пой-ва-ць
на-помн-і-ць
на-пор-∅-□
на-пор-ва-ць
на-пор-н-асць-□
на-пор-н-ы

на-пор-ыст-а
на-пор-ыст-асць-□
на-пор-ыст-ы
на-поўн-ен-асць-□
на-поўн-і-ць
на-прав-а
на-пра-ва-ць
на-прав-і-ць
на-прад-а-ць
на-прад-весн-і
на-праж-ва-ць
на-праж-ы-ць
на-пракат-∅
на-практык-оў-ва-ць
на-пра-лёт-∅
на-пра-лом-∅
на-прам-ак-□
на-пра-ну-ць (на+прат+ну+ць)
на-прапа-л-ую
на-прароч-ы-ць
на-прас-ав-а-ць
на-прас-і-ць
на-прас-оў-ва-ць (*прасаваць*)
на-пра-соў-ва-ць (*прасунуць*)
на-праст-к-і
на-прас-ці
на-прасц-як
на-праўд-у
на-праў-к-а
на-праўл-я-ць
на-праў-шчык-□
на-праў-шчыц-а
на-пруж-ан-а
на-пруж-ан-асць-□
на-пруж-анн-е
на-пруж-ва-нн-е
на-пруж-ва-ць
на-пруж-н-ы
на-пруж-ы-ць
на-прыклад-∅ (*для прыкладу*)
на-прэг-чы
на-псав-а-ць
на-пудр-ыва-ць
на-пудр-ы-ць
на-пуск-∅-□
на-пуск-а-нн-е
на-пуск-а-ць
на-пуск-н-ы
на-пусц-і-ць
на-пух-а-нн-е
на-пух-а-ць
на-пух-л-ы
на-пух-ну-ць
на-пх-а-ць
на-пыл-і-ць
на-пырск-а-ць
на-пырск-ва-ць
на-пыт-а-ць
на-пыт-ва-ць
на-пытл-яв-а-ць
на-пыш-лів-а
на-пыш-лів-асць-□
на-пыш-лів-ы
на-пэўн-а
на-пя-ва-нн-е
на-пя-ва-ць
на-пяк-а-ць
на-пярэда-дн-і
на-пя-т-асць-□
на-пя-ць
на-[пя-ч]ы (на+пяк+чы)
на-раб-ав-а-ць
на-раб-і-ць
на-рабл-я-ць
нарав-іст-асць-□
нарав-іст-ы
нарав-і-ць
на-рад-∅-□ (*абнова*)
нарад-□ (*міліцыі*)
на-рад-а (*параўн.* да-рад-чык-□)
нарад-а-люб-насць-□
нарад-а-люб-ств-а
на-радж-а-льнасць-□
на-радж-а-ць
на-радж-энн-е
на-радз-і-ць
нарад-н-ы

нарад-чык-□ (*хто выпісвае нарады*)
нарад-чыц-а
на-раз-а-нн-е
на-раз-а-ць
на-раз-н-ы
на-ра-і-ць (на-рай-і-ць)
нарак-а-нн-е
нарак-а-ць
на-рас-пе-ў-∅
на-раст-∅-□
на-раст-а-нн-е
на-раст-а-ць
на-рас-хват-∅
на-[рас-ц]і (на+раст+ці)
на-[рас-ц]і-ць (на+раст+ці+ць)
на-расць-∅-□
на-раўн-е
на-рач-он-ы
на-рашчын-я-ць
на-рашч-энн-е
на-рв-а-ць
нарзан-н-ы
нарм-ав-а-ць
нарм-алізав-а-ць
нарм-алізацы-я (нарм-алізацый-а)
нарм-альн-а
нарм-альн-асць-□
нарм-альн-ы
нарм-атыў-□
нарм-атыў-н-асць-□
нарм-атыў-н-ы
нарм-іраў-а-нн-е
нарм-іраў-а-ць
нарм-іров-ач-н-ы
нарм-іроў-к-а
нарм-іроў-шчык-□
нарм-іроў-шчыц-а
народ-а-на-сель-ніцтв-а
народ-а-ўладдз-∅-е
народ-а-ўлад-ств-а
народ-н-а-гаспад-ар-ч-ы
народ-н-асць-□
народ-н-ік-□
народ-н-іц-а
народ-н-і[ц-к]-і (народ+н+ік+ск+і)
народ-н-і[ц-тв]-а (народ+н+ік+ств+а)
народ-н-ы
на-рошч-ва-нн-е
на-рошч-ва-ць
на-рук-аў-н-ік-□
на-рук-аў-н-ы
на-румян-і-ць
на-румянь-ва-ць
на-руч-н-ік-і
на-руч-н-ы
нарцыс-ав-ы
на-рыв-а-ць (*нарваць*)
на-ры-ва-ць (*нарыць*)
на-рыс-ав-а-ць
нарыс-іст-□
нарыс-іст-к-а
на-рыў-∅-□
на-рыў-н-ы
на-рыў-н-ы
на-рыхтав-а-н-асць-□
на-рыхтав-а-ць
на-рыхтоў-ва-ць
на-рыхтоў-к-а
на-рыхтоў-ч-ы
на-рыхтоў-шчык-□
на-рыхтоў-шчыц-а
на-ры-ць
на-рэбер-н-ы
на-рэз-∅-□
на-рэз-а-ць
на-рэшц-е
нас-ав-ы
нас-а-глот-ач-н-ы
на-сад-ач-н-ы
на-садж-а-ць
на-садж-ва-нн-е

на-садж-ва-ць
на-садж-энн-е
на-садз-і-ць
на-сад-к-а
на-сад-н-ы
на-саладз-і-ць
на-сал-і-ць
на-салодж-ва-ць
на-саль-ва-ць
на-сарт-ав-а-ць
на-сарт-оў-ва-ць
на-свідр-ав-а-ць
на-свідр-оў-ва-ць
на-свіст-а-ць
на-свіст-ва-нн-е
на-свіст-ва-ць
на-седж-ва-нн-е
на-седж-ва-ць
на-седз-е-ць
на-сел-ен-асць-□
на-сель-нік-□
на-сель-ніц-а
на-сель-ні[ц-тв]-а
(на+сель+нік+ств+а)
насен-іст-ы
насенн-е-а-чышч-а-льн-ы
насен-н-ік-□
насен-н-ік-ав-ы
насен-н-іц-а
насен-н-ы
насенн-я-вод-∅-□
насенн-я-вод-ств-а
насенн-я-с-хов-ішч-а
на-сес-ці
на-сеч-к-а
на-се-я-ць (на-сей-а-ць)
нас-і-лк-і
на-сілл-∅-е
на-сіл-у
на-сіл-ы
на-сіль-н-а
на-сіль-н-ы
на-сіль-шчык-□

на-сін-і-ць
на-сінь-ва-ць
нас-і-ць
на-скак-ва-ць
на-сквар-ва-ць
на-сквар-ы-ць
на-с-кід-ва-ць
на-с-клад-а-ць
на-скок-∅-□
на-скок-ва-ць
на-скор-а
на-скоч-ы-ць
на-скраб-а-ць
на-скрозь
на-скрэб-ва-ць
на-скрэб-ці
на-скуб-а-ць
на-скуб-ва-ць
на-скуб-ці
на-скур-н-ы
на-сла-енн-е (на-слай-энн-е)
на-сла-і-ць (на-слай-і-ць)
на-сл-а-нн-ё
наслед-ав-а-нн-е (*наследны*)
наслед-ав-а-ць
наслед-н-ік-□
наслед-н-іц-а
наслед-н-ы
на-слінь-ва-ць
на-слой-ва-нн-е
на-слой-ва-ць
на-слядз-і-ць
на-смаж-ва-ць
на-смаль-ва-ць
на-смарк-□
на-смел-ую
на-смец-і-ць
на-смеч-ва-ць
на-смеш-к-а
на-смеш-лів-а
на-смеш-лів-асць-□
на-смеш-нік-□
на-смеш-ніц-а
на-сміх-а-нн-е

на-смокт-ва-ць
на-смоль-ва-ць
на-смя-ш-ы-ць
на-смя-я-ць (на-смяй-а-ць)
на-снав-а-ць
(*party̆н.* а-снав-а-ць)
на-сн-і-ць
на-сов-а-ць
на-соль-ва-ць
на-соў-ва-нн-е
на-соў-ва-ць
на-сох-ну-ць
на-спе-л-ы
на-спех-∅
на-спе-ць
на-спірт-ав-а-ць
на-спірт-оў-ва-ць
на-спя-ва-нн-е
на-спя-ва-ць (*спелы*)
на-ста-ва-ць
на-став-і-ць
на-стал-і-ць
на-стаўл-енн-е
на-стаўл-я-ць
настаў-нік-□ (*гіст.* на-стаў-нік-□)
настаў-ніц-а
настаў-ні[ц-к]-ая
(настаў+нік+ск+ая)
настаў-ні[ц-к]-і
(настаў+нік+ск+і)
настаў-ні[ц-тв]-а
(настаў+нік+ств+а)
настаў-ніч-а-нн-е
настаў-ніч-а-ць
на-ста-ць
на-ста-я-нн-е (на-стай-а-нн-е)
на-ста-я-ць (на-стай-а-ць)
на-сто-еч-н-ы (на-стой-эч-н-ы)
на-стой-∅-□
на-стой-ва-нн-е
на-стой-ва-ць
на-стой-к-а
на-стой-лів-а
на-стой-лів-асць-□
на-стой-лів-ы
на-стольк-і
на-столь-н-ік-□
на-столь-н-ы
на-сто-я-ць (на-стой-а-ць)
на-страч-ы-ць
на-страш-ы-ць
на-стро-ен-асць-□
(на-строй-эн-асць-□)
на-стро-і-ць (на-строй-і-ць)
на-строй-∅-□
на-строй-ва-нн-е
на-строй-ва-ць
на-строй-к-а
на-строй-шчык-□
на-строй-шчыц-а
на-струг-а-ць
на-струг-ва-ць
на-стрыг-∅-□
на-стрыг-а-ць
на-стрыг-чы
на-стрэль-ва-ць
на-стук-а-ць
на-стук-ва-ць
на-ступ-∅-□
на-ступ-а-льн-асць-□
на-ступ-а-льн-ы
на-ступ-а-нн-е
на-ступл-енн-е
на-ступ-н-ы
на-сты-ва-ць
на-сты-л-ы
на-сты-ць
на-сук-а-ць
на-сук-ва-ць
на-су-ну-ць
на-суп-і-ць
на-супл-іва-ць
на-су-страч-∅
(*параўн.* стрэ-ч-н-ы)
на-сух-а
на-суш-ва-нн-е

на-суш-ва-ць
на-сцен-н-ы
на-сцераж-ы-ць
на-сціг-а-ць
на-сціг-ну-ць
на-сціл-∅-□
на-сціл-а-нн-е
на-сціл-а-ць
на-сціл-ач-н-ы
на-сцярож-ан-а
на-сцярож-ан-асць-□
на-сцярож-ва-ць
на-сцярож-лів-асць-□
на-сцярож-лів-ы
на-сыл-а-ць
на-сып-∅-□
на-сып-а-нн-е
на-сып-а-ць
на-сып-а-ць
на-сып-к-а
на-сып-н-ы
на-сыс-а-ць
на-сых-а-ць
на-сыц-і-ць
на-сыч-ан-асць-□
на-сыч-а-ць
на-сыч-энн-е
на-ся-ва-ць
на-сяд-а-ць
на-сядз-е-ць
на-сяк-а-нн-е
на-сяк-а-ць
на-сял-енн-е
на-сял-і-ць
на-сял-я-ць
нат-ав-а-ць
на-тал-і-ць
на-тал-я-ць
на-там-і-ць
на-тамл-я-ць
на-тап-і-ць
на-тапт-а-ць
на-тапыр-ва-нн-е
на-тапыр-ва-ць
на-тапыр-ы-ць
на-тарг-ав-а-ць
на-тарг-оў-ва-ць
нат-атк-а
на-[таў-ч]ы (на+таўк+чы)
на-тач-ы-ць
на-твар-ы-ць
на-тк-а-ць
на-тк-ну-ць
на-топл-іва-ць
на-топт-ва-ць
на-торк-а-ць
на-тоўп-∅-□ (*параўн.* таўп-і-ц-ца)
на-тоўп-ам
на-точ-ва-нн-е
на-точ-ва-ць
на-трав-і-ць
на-тр-а-е (на-тр-ай-э)
на-трал-ёў-ва-ць
на-трал-яв-а-ць
на-трап-а-ць
на-трап-і-ць
на-трапл-я-ць
на-трас-а-ць
на-траўл-іва-ць
на-труб-і-ць
на-трудж-ва-ць
на-трудз-і-ць
на-труц-і-ць
на-труш-ва-ць
на-трэн-ірав-а-н-асць-□
на-трэн-ірав-а-ць
на-трэс-ва-ць
на-трэс-ці
на-туж-ва-ць
на-туж-лів-а
на-туж-лів-ы
на-туж-н-а
на-туж-н-ы
на-туж-ы-ць
на-туз-а-ць
натур-алізав-а-ць
натур-алізацы-я
(натур-алізацый-а)

натур-алізм-□
натур-аліст-□
натур-аліст-ычн-ы
натур-альн-а
натур-альн-асць-□
натур-альн-ы
натур-н-ы
натур-шчык-□
натур-шчыц-а
натур-ыст-ы
натхн-енн-е
натхн-ён-а
натхн-ён-асць-□
натхн-ён-ы
натхн-і-цель-□
натхн-і-цель-ніц-а
натхн-і-ць
натхн-я-ць
на-тык-а-нн-е
на-тык-а-ць
на-тык-а-ць
на-ў-гад-∅
на-ўдал-ую
на-ўдач-у
на-ў-мыс-н-а
(на+ў+мысл+н+а)
на-ў-мыс-н-асць-□
(на+ў+мысл+н+асць+□)
на-ў-мыс-н-ы
(на+ў+мысл+н+ы)
на-ўцёк-і-∅
на-уюч-ва-нн-е
на-уюч-ва-ць
на-уюч-ы-ць
на-фарб-ав-а-ць
на-фастрыг-ав-а-ць
нафт-ав-ік-□
нафт-ав-ы
нафт-а-… *– першая частка складаных слоў:*
нафт-а-з-дабы-ч-а *і інш.*
на-хав-а-ць
на-хадз-і-ць
на-хап-а-ць
на-хапл-я-ць
на-хвал-і-ць
на-хваль-ва-ць
на-хват-а-ць
на-хвос-нік-□ (на+хвост+нік+□)
на-хіл-∅-□
на-хіл-ен-а
на-хіл-ен-асць-□
на-хіл-енн-е
на-хіл-і-ць
на-хіл-я-ць
на-[хі-н]-а-ць (на+хін+н+а+ць)
на-[хі-н]у-ць (на+хін+ну+ць)
на-хлеб-нік-□
на-хлеб-ніц-а
на-хлеб-ні[ц-к]-і
(на+хлеб+нік+ск+і)
на-хлеб-ні[ц-тв]-а
(на+хлеб+нік+ств+а)
на-хлы-ну-ць
на-хмар-ы-ць
на-хмур-ан-асць-□
на-хмур-ва-ць
на-хмур-ы-ць
на-ходз-і-ць
на-цадз-і-ць
на-цал-ав-а-ць
на-цан-і-ць
на-цель-н-ік-□
на-цель-н-ы
на-цераб-і-ць
на-церуш-ы-ць
на-цер-ці
на-цеч-н-ы
на-цеш-ы-ць
на-цёк-∅-□
на-цір-а-нн-е
на-цір-а-ць
на-ціск-∅-□ (*націснуць*)
націск-□ (*націскны галосны*)
на-ціск-а-нн-е
на-ціск-а-ць

на-ціск-н-ы (*націснуць*)
націск-н-ы (*галосны*)
на-ціс-ну-ць (на+ціск+ну+ць)
на-цкав-а-ць
на-цкоў-ва-нн-е
на-цкоў-ва-ць
нацы-я (нацый-а)
нацы-янал-ізав-а-ць
(нацый-анал-ізав-а-ць)
нацы-янал-ізацы-я
(нацый-анал-ізацый-а)
нацы-яналь-н-асць-□
(нацый-аналь-н-асць-□)
нацы-яналь-н-ы
(нацый-аналь-н-ы)
на-цэдж-ва-ць
на-цэл-ен-асць-□
на-цэл-і-ць
на-цэль-ва-нн-е
на-цэль-ва-ць
на-цэн-к-а
на-цэнь-ва-ць
на-цяг-а-ць
на-цяг-ва-нн-е
на-цяг-ва-ць
на-цяг-ну-т-а
на-цяг-ну-т-асць-□
на-цяг-ну-ць
на-цяж-к-а
на-цяж-н-ы
на-цяж-энн-е
на-цяк-а-ць
на-цяпл-я-ць
на-цяруш-ва-ць
на-цярэбл-іва-ць
на-[ця-ч]ы (на+цяк+чы)
нач-ав-а-ць
на-чадз-і-ць
на-чакан-і-ць
на-чакань-ва-ць
началь-нік-□
началь-нік-аў-□
началь-ніц-а
началь-ні[ц-к]-і
(началь+нік+ск+і)
началь-ств-а
началь-ств-ав-а-нн-е
началь-ств-ав-а-ць
на-чап-і-ць
на-чапл-я-ць
на-чарн-а
на-чарн-і-ць
на-чарц-і-ць
на-час-а-ць
на-ча-тк-і
нач-леж-к-а
нач-леж-н-ік-□
нач-леж-н-іц-а
нач-леж-н-ы
нач-н-ік-□
нач-н-ы
начов-ач-к-і
начот-ніцтв-а
начот-чык-□
начот-чыц-а
нач-оў-к-а
начоў-к-і
на-чх-а-ць
начын-і-ць
начын-к-а
начын-я-ць
на-чыст-а
на-чыст-ат-у
на-чысц-і-ць
на-чыт-ан-асць-□
на-чыт-ан-ы
на-чыт-а-ць
на-чыт-ва-ць
на-чышч-а-ць
на-чэпл-іва-нн-е
на-чэпл-іва-ць
на-чэрп-а-ць
на-чэрп-ва-ць
на-чэрч-ва-ць
на-чэс-ва-ць
на-шапт-а-ць

на-шарав-а-ць
на-шароў-ва-нн-е
на-шароў-ва-ць
нашатыр-н-ы
на-шкл-і-ць
на-шкодз-і-ць
на-шморг-а-ць
на-шморг-ва-ць
на-шпігав-а-ць
на-шпігоў-ва-нн-е
на-шпігоў-ва-ць
на-шруб-ав-а-ць
на-шруб-оў-ва-ць
на-штурх-оў-ва-ць
на-шум-е-ць
на-шчап-а-ць
на-шчып-а-ць
на-шы-ва-нн-е
на-шы-ва-ць
на-шый-н-ік-□
на-шый-н-ы
на-шы-ў-к-а
на-шы-ў-н-ы
на-шы-ць
наш-энн-е
на-шэпт-ва-нн-е
на-шэпт-ва-ць
на-электр-ызав-а-ць
на-электр-ызоў-ва-ць
на-яв-е
на-яв-у
на-ездж-а-ць
на-яў-н-асць-□
на-яў-н-ы
не-аб-верж-н-а
не-аб-верж-н-асць-□
не-аб-верж-н-ы
не-аб-вярг-а-льн-асць-□
не-аб-вярг-а-льн-ы
не-аб-дым-н-а
не-аб-дым-н-асць-□
не-аб-сяж-н-асць-□
не-аб-сяж-н-ы
не-а-буд-н-ы
неабходн-а
неабходн-асць-□
не-ад’-ем-н-а
не-ад’-ем-н-асць-□
не-ад’-ем-н-ы
не-ад-клад-н-а
не-ад-клад-н-асць-□
не-ад-клад-н-ы
не-ад-луч-н-а
не-ад-луч-н-ы
не-ад-плат-н-ы
не-ад-рыў-н-а
не-ад-рыў-н-асць-□
не-ад-ступ-н-а
не-ад-ступ-н-асць-□
не-ад-хіль-н-а
не-ад-хіль-н-асць-□
не-ад-хіль-н-ы
не-ад-чуж-альн-асць-□
не-ад-чуж-альн-ы
не-ад-чэп-н-а
не-ад-чэп-н-асць-□
не-а-плат-н-ы
не-а-слаб-н-а
не-а-слаб-н-асць-□
не-а-слаб-н-ы
не-а-спрэч-н-а
не-а-спрэч-н-асць-□
не-а-спрэч-н-ы
не-а-цэн-н-ы
неб-а-край-□
неб-а-скроб-∅-□
неб-а-с-хіл-∅-□
не-бы-л-іц-а
не-відз-ім-к-а
не-від-ушч-ы
не-вук-∅-□
не-ву[ц-к]-і (не+вук+ск+і)
не-ву[ц-тв]-а (не+вук+ств+а)
не-вы-каран-я-льн-ы
не-вы-лаз-н-ы
не-вы-чэрп-н-асць-□

не-вы-чэрп-н-ы
не-вял-іч-к-і
не-гад-а-н-ы
не-гас-ім-ы
негатыў-н-ы
неда-ар-а-ць
неда-бачва-ць
неда-бач-ы-ць
неда-бір-а-ць
неда-бі-т-ы
неда-бор-∅-□
неда-бр-а-ць
неда-важ-ва-нн-е
неда-важ-ва-ць
неда-важ-ы-ць
неда-вар-ва-ць
неда-вар-ы-ць
неда-верш-ан-ы
неда-вор-ва-ць
неда-вук-∅-□
неда-вуч-ан-ы
неда-вуч-ва-ць
неда-вуч-к-а
неда-вуч-ы-ць
неда-выкан-а-нн-е
неда-выкан-а-ць
неда-выкон-ва-ць
неда-вяз-а-ць
неда-гавар-ва-нн-е
неда-гавар-ва-ць
неда-гавар-ы-ць
неда-гавор-ва-нн-е
неда-гавор-ва-ць
неда-гавор-к-а
неда-гар-ак-□
неда-гар-э-л-ы
неда-гледз-е-ць
неда-гляд-∅-□
неда-глядз-е-ць
неда-груж-а-ць
неда-груз-і-ць
неда-груз-к-а
неда-грыз-ак-□
неда-да-ва-нн-е
неда-да-ва-ць
неда-да-ць
неда-да-ч-а
неда-дум-а-ць
неда-дум-ва-ць
неда-ед-к-і
неда-ес-ці
неда-жа-ць
неда-жын-к-і
не-даказ-а-льн-асць-□
неда-каз-а-н-асць-□
(*недагаварыць*)
не-даказ-а-н-асць-□ (*доказ*)
неда-каз-а-ць (*недагаварыць*)
неда-каз-ва-ць
неда-карм-і-ць
неда-конч-ан-асць-□
неда-конч-ан-ы
неда-корм-∅-□
неда-лёт-∅-□
не-дал-ёч-к-а
неда-лі-ва-ць
неда-лі-ць
неда-ліч-ва-ць
неда-ліч-ы-ць
неда-лоў-∅-□
неда-любл-іва-ць
неда-ляч-ы-ць
неда-маг-а-нн-е
неда-маг-а-ць
неда-мер-ак-□
неда-моўл-ен-асць-□
неда-мысл-ен-асць-□
неда-нос-ак-□
неда-пал-і-ць
неда-паль-ва-ць
неда-пе-т-ы
неда-пёк-∅-□
неда-пі-ва-ць
неда-піс-а-ць
неда-піс-ва-ць
неда-пі-т-ы

неда-плат-∅-а
неда-плац-і-ць
неда-плач-ва-нн-е
неда-плач-ва-ць
неда-прац-ав-а-н-асць-□
неда-прац-ав-а-ць
неда-прац-оў-ва-ць
неда-прац-оў-к-а
неда-пяк-а-ць
неда-[пя-ч]ы (неда+пяк+чы)
неда-раб-і-ць
не-дар-ав-а-льн-асць-□
неда-разві-т-асць-□
неда-разві-т-ы
неда-разві-цц-ё
неда-роб-к-а
неда-робл-ен-асць-□
неда-робл-ен-ы
неда-род-∅-□
неда-рост-ак-□
недарэч-н-а
недарэч-н-асць-□
недарэч-н-ы
неда-сал-і-ць
неда-се-ў-∅-□
неда-се-я-ць (неда-сей-а-ць)
неда-сол-∅-□
неда-соль-ва-ць
неда-сп-а-ць
неда-спе-л-асць-□
неда-спе-л-ы
неда-сып-а-нн-е
неда-сып-а-ць
неда-сып-а-ць
неда-ся-ва-ць
неда-тле-л-ы
неда-трым-а-ць
неда-трым-к-а
неда-тык-а-льн-асць-□
неда-тык-а-льн-ы
неда-хоп-∅-□
неда-цяг-ва-ць
неда-цяг-ну-ць
неда-чу-ва-нн-е
неда-чу-ва-ць
неда-чу-ць
неда-чыт-а-н-ы
неда-яд-а-нн-е
неда-яд-а-ць
не-забы-ўн-ы
не-за-люб-і-ць
не-за-памят-н-ы
не-з-ліч-он-асць-□
не-з-ліч-он-ы
не-з-маўк-а-льн-а
не-з-маўк-а-льн-ы
нейлон-ав-ы
нейтрал-ізав-а-ць
нейтрал-ізацы-я
(нейтрал-ізацый-а)
нейтрал-ізм-□
нейтрал-ітэт-□
нейтраль-н-а
нейтраль-н-асць-□
нейтраль-н-ы
не-к-ага
не-кальк-і
не-кра-ну-т-асць-□
(не+крат+ну+т+асць+□)
не-кра-ну-т-ы
(не+крат+ну+т+ы)
не-людз-ім-□
не-людз-ім-асць-□
не-людз-ім-к-а
не-людз-ім-ы
нем-а
нем-а-вед-ам-а
не-маём-н-ы
не-мал-а-важн-асць-□
не-мал-а-важн-ы
нем-асць-□
нем-ат-а
не-маўл-∅-я
ненавідз-е-ць
(*гіст.* не-на-відз-е-ць)
ненавіс-н-ік-□ (ненавіст+н+ік+□)

ненавіс-н-іц-а (ненавіст+н+іц+а)
ненавіс-н-і[ц-тв]-а
(ненавіст+н+ік+ств+а)
ненавіс-н-ы (ненавіст+н+ы)
не-на-ед-н-асць-□
не-на-ед-н-ы
не-на-сыт-н-асць-□
не-на-сыт-н-ы
не-на-толь-н-ы
неон-ав-ы
не-пагадзь-∅-□
не-пагод-а
не-па-дал-ёк-у
не-пад-ступ-н-асць-□
не-пад-ступ-н-ы
не-па-з-беж-н-а
не-па-з-беж-н-асць-□
не-па-з-беж-н-ы
не-пако-і-ць (не-пакой-і-ць)
не-па-лад-к-і
не-па-мер-н-а
не-па-мер-н-асць-□
не-па-мер-н-ы
не-па-праў-н-асць-□
не-па-руш-н-а
не-па-руш-н-асць-□
не-па-руш-н-ы
не-па-сед-∅-а
не-па-сед-лів-асць-□
не-па-сед-лів-ы
не-па-хіс-н-а
(не+па+хіст+н+а)
не-па-хіс-н-асць-□
(не+па+хіст+н+асць+□)
не-па-хіс-н-ы
(не+па+хіст+н+ы)
не-плац-еж-□
не-пра-буд-н-а
не-пра-буд-н-ы
не-пра-гляд-н-асць-□
не-пра-гляд-н-ы
не-прад-бач-ан-а
не-прад-бач-ан-асць-□
не-пры-гляд-н-а
не-пры-гляд-н-асць-□
не-пры-гляд-н-ы
не-пры-мір-ым-а
не-пры-мір-ым-асць-□
не-пры-мір-ым-ы
не-прыязь-∅-□
не-прыяцель-□
(*гіст.*не-пры-я-цель-□)
не-раз-луч-н-а
не-раз-луч-н-асць-□
не-раз-луч-н-ы
нерв-ав-а-нн-е
нерв-ав-а-ць
нерв-ов-а
нерв-ов-асць-□
нерв-ов-а-хвор-ы
нерв-ов-ы
нерв-озн-а
нерв-озн-асць-□
нерв-озн-ы
не-с-канч-он-а
не-с-канч-он-асць-□
не-с-канч-он-ы
не-спадзеў-к-а
не-спадзяв-а-н-а
не-спадзяв-а-н-асць-□
не-спадзяв-а-н-ы
не-с-пакой-лів-асць-□
не-с-пакой-лів-ы
не-сумн-енн-а
не-сумн-енн-асць-□
не-сумн-енн-ы
не-су-цеш-н-а
не-су-цеш-н-асць-□
не-су-цеш-н-ы
не-су-ціш-н-ы
не-с-ціх-а-н-а
не-с-ціх-а-н-асць-□
не-с-ціх-а-н-ы
не-ў-вяд-а-льн-асць-□
не-ў-вяд-а-льн-ы
не-ў-за-бав-е

не-ўз-люб-і-ць
не-ў-мір-уч-асць-□
не-ў-мір-уч-ы
не-ў-па-пад-∅
(*параўн.* су-пад-а-ць)
не-хац-я
не-хлямяж-асць-□
не-хлямяж-ы
не-ч-ага
не-чака-н-а
не-чака-н-асць-□
не-чака-н-ы
не-чу-ва-н-а
не-чу-ва-н-ы
не-ч-ы
не-яд-ом-ы
ні-водн-ы
ніж-ай
ніж-н-і
ніж-эй
ніж-эй-на-зв-а-н-ы
ніж-эй-пад-піс-а-н-ы
ніж-эй-пера-ліч-ан-ы
ніж-эйш-ы
ніз-ав-ы
ніз-ам
ніз-а-нн-е
ніз-асць-□
ніз-а-ць
ніз-енеч-к-і
ніз-еньк-і
ніз-ін-а
ніз-ін-к-а
ніз-ін-н-ы
ніз-к-а (*назоўнік*)
ніз-к-а (*прыслоўе*)
ніз-к-producing-а
ніз-к-producing-ы
ніз-к-а-… – *першая частка складаных слоў:*
ніз-к-а-рос-л-ы
(ніз+к+а+рост+л+ы) *і інш.*
ніз-к-і
ніз-оў-е (ніз-оўй-э)
нікел-ев-ы
нікел-інав-ы
нікел-ірав-а-нн-е
нікел-ірав-а-ць
нікел-іров-ач-н-ы
нікел-іроў-к-а
нікел-іроў-шчык-□
нікел-іроў-шчыц-а
нік-л-ы
нік-ну-ць
ні-к-ога
ні-колі
ні-кольк-і
ні-куды
ніт-ач-к-а
ніт-ач-н-ы
ніт-к-а
ніт-к-producing-ы
ніц-ав-а-нн-е
ніц-ав-а-ць
ніц-ма
ніц-ян-ы
ні-ч-ога (*прыслоўе*)
ні-чый-□
нішч-ы-ць
нішч-энн-е
ні-як
ні-як-і
нов-а-… – *першая частка складаных слоў:*
нов-а-вы-бр-а-н-ы *і інш.*
ногц-ев-ы
нож-к-а
нож-ык-□
нож-ыч-ак-□
нор-к-а (*нара*)
норк-а (*жывёла*)
норк-ав-ы
нос-ік-□
нос-к-асць-□
нос-к-і
нос-чык-□

нось-біт-□
ноч-аньк-а
ноч-к-а
ночч-∅-у
нош-∅-а
нош-ан-ы
нош-к-а
нуд-∅-а
нул-яв-ы
нумар-ав-а-льн-ы
нумар-ав-а-нн-е
нумар-ав-а-ць
нумар-атар-□
нумар-ацый-н-ы
нумар-ацы-я (нумар-ацый-а)
нумар-н-ы
нумар-ок-□
нумар-оў-к-а
нумар-оў-шчык-□
нумар-оў-шчыц-а
нутр-ан-ы
нутры-ев-ы (нутрый-эв-ы)
ныр-а-нн-е
ныр-а-ць
ныр-ну-ць
ныр-ц-ов-ы
ныр-ц-ом
ныр-эц-□
ны-ць
нюанс-ав-а-нн-е
нюанс-ав-а-ць
нюх-∅-□
нюх-а-льн-ы
нюх-а-льшчык-□
нюх-а-льшчыц-а
нюх-а-нн-е
нюх-а-ць
нюх-ну-ць
няб-ес-н-ы
ня-вер’-е (ня-вер-й-э)
нявест-к-а
нявесц-ін-□
ня-веч-анн-е
ня-веч-ы-ць
(*параўн.* абяз-веч-ы-ць)
ня-він-н-а
ня-він-н-асць-□
ня-він-н-іц-а
ня-вол-і-ць
ня-воль-н-ік-□
ня-воль-н-і[ц-к]-і
(ня+воль+н+ік+ск+і)
ня-воль-н-і[ц-тв]-а
(ня+воль+н+ік+ств+а)
ня-выкан-а-н-ы
ня-дба-йл-ів-ы
ня-дба-йн-а
ня-дба-йн-асць-□
нядзель-н-ік-□
нядзель-н-ы
нядоім-к-а (*гіст.* ня-до-ім-к-а)
нядоім-к-ав-ы
нядоім-шчык-□
нядоім-шчыц-а
нядошл-ы
ня-дрэм-н-ы
ня-з-гас-н-а
ня-з-гас-н-ы
ня-з-мер-н-а
ня-з-мер-н-асць-□
ня-з-мер-н-ы
ня-з-моўч-н-а
ня-з-моўч-н-ы
ня-зна-йк-а
ням-е-ць
ня-моўч-н-ы
нян-еч-к-а
нянь-к-а
нянь-ч-анн-е
нянь-ч-ын-□
нянь-ч-ы-ць
ня-плод-н-асць-□
ня-плод-н-ы
ня-прош-ан-ы
ня-рэч-ыў-н-асць-□

ня-рэч-ыў-н-ы
няс-енн-е
ня-сіл-е-ць
ня-сіл-і-ць
ня-с-пын-н-а
ня-с-пын-н-асць-□
ня-с-пын-н-ы
ня-ста-ч-а (*параўн.* не-да-ста-ч-а)
ня-с-трым-н-а
ня-с-трым-н-асць-□
ня-с-трым-н-ы
няс-уч-асць-□
няс-ушк-а
ня-с-церп-н-а
ня-с-церп-н-асць-□
ня-с-церп-н-ы
ня-ў-важ-н-асць-□
ня-ўдач-н-ік-□
ня-ўдач-н-іц-а
ня-ў-лоў-н-асць-□
ня-ў-пын-н-а
ня-ў-пын-н-асць-□
ня-ў-пын-н-ы
ня-ў-род-∅-□
ня-ў-рок-ам
ня-ў-толь-н-асць-□
ня-ў-толь-н-ы
ня-ў-час-н-а
ня-ў-час-н-ы
ня-чэп-а-н-ы
ня-шчад-н-ы

# О

о-дум-∅-□
опер-н-ы
опт-ам
ордэн-ск-і
ордэр-н-ы
охр-ы-ць

# П

па-асоб-к-у
па-багац-е-ць
па-бал-ав-а-ць
па-бал-е-ць
па-бал-яв-а-ць
па-банкет-ав-а-ць
па-барабан-і-ць
па-баран-ав-а-ць
па-бар-о-ць
па-бацьк-оў-ск-у
па-бач-ы-ць
па-ба-яв-ому (па-бай-ав-ому)
па-бег-а-ць
па-бег-чы
па-бед-ав-а-ць
па-белару[с-к]-у
(*гіст.* па+бел+а+рус+ск+у)
па-бел-ач-н-ы
па-бел-к-а
па-бераг-чы
па-бі-ва-ць
па-бі-т-ы
па-бі-ць
па-блаж-э-л-ы
па-блаж-э-ць
па-блек-л-ы
па-блек-ну-ць
па-бліз-у
па-бліск-ва-нн-е
па-бліск-ва-ць
па-блішч-а-ць
па-блудз-і-ць
па-блук-а-ць
па-блыт-а-ць
па-блядн-е-ць
па-бля-я-ць (па-бляй-а-ць)
па-бо-і (па-бой-і)
па-бо-ішч-а (па-бой-ішч-а)
па-бол-ей
па-боль-ва-ць
па-боль-ш (*параўн.* па-бол-ей)
па-боль-ш-а-ць
па-боль-ш-ва-ць
па-боль-ш-ы-ць
па-бор-∅-□
па-бор-нік-□
па-бор-∅-ы
па-боўт-а-ць
па-боўт-ва-ць
па-боч-н-ы
па-брадз-і-ць
па-бразг-ат-а-ць
па-бразг-ац-е-ць
па-бразг-а-ць
па-бразг-ва-ць
па-браздж-а-ць
па-брак-ав-а-ць
па-бранз-ав-а-ць
па-бранз-ав-е-ць
па-брат-н-яму
па-брат-эрск-у
па-брах-а-ць
па-брац-ім-□
па-брац-ім-ств-а
па-бра[ц-к]-у
(па+брат+ск+у)
па-бр-а-ць
па-бросн-е-ць
па-брук-ав-а-ць
па-брыгад-н-а
па-брыгад-н-ы
па-брыд-ч-э-ць
па-брык-а-ць
па-бры-ць
па-буд-ав-а-ць
па-будз-і-ць
па-буд-к-а
па-буд-ов-а
па-буйн-е-нн-е
па-буйн-е-ць

па-букс-ав-а-ць
па-бунт-ав-а-ць
па-бурл-і-ць
па-бурч-а-ць
па-бур-э-л-ы
па-бур-энн-е
па-бур-э-ць
па-бушав-а-ць
па-бу-ян-і-ць (па-буй-ан-і-ць)
па-бу-я-ць (па-буй-а-ць)
па-бы-ва-ць
па-бы-ў-к-а
па-бы-ць
па-бядн-е-ць
па-бял-е-ць
па-бял-і-ць
па-ваб-і-ць
па-ваб-лів-а
па-ваб-лів-ы
па-ваб-н-а
па-ваб-н-асць-□
па-ваб-н-ы
па-ваг-∅-а (*параўн.* з-ня-ваг-а)
па-ваг-а-ць
па-вадз-і-ць
павад-к-а (*параўн.* паводз-ін-ы)
па-вад-ок-□
па-вад-ыр-□
па-вад-ыр-к-а
па-ва-ен-н-аму (па-вай-эн-н-аму)
па-важ-а-нн-е
па-важ-а-н-ы
па-важ-а-ць
па-важ-лів-ы
па-важн-а (*гіст.* па-важ-н-а)
па-важн-асць-□
па-важн-іча-ць
па-важн-ы
па-важ-ы-ць
па-ваз-і-ць
па-вай-ск-ов-аму
па-вакс-ав-а-ць
па-вал-∅-□
па-[вала-ч]-ы (па+валак+чы)
па-валач-ы-ць
па-вал-і-ць
па-валок-а
па-валтуз-і-ць
па-валь-н-а
па-валь-н-ей
па-валь-н-ейш-ы
па-валь-н-ы
па-вал-я-ць
па-вандрав-а-ць
па-вараж-ы-ць
па-варкат-а-ць
па-варот-∅-□
па-варот-к-а
па-варот-лів-асць-□
па-варот-лів-ы
па-варот-н-ы
па-вароч-а-ць
па-вароч-ва-ць
па-варт-ав-а-ць
па-ва-руш-ва-ць
па-вар-ых-а
па-вар-ы-ць
па-васк-ав-а-ць
па-вастр-ы-ць
па-вастр-э-ць
па-вашч-ы-ць
па-ва-яв-а-ць (па-вай-ав-а-ць)
па-ведам-і-ць
(*гіст.* па-вед-ам-і-ць)
па-ведамл-енн-е
па-ведамл-я-льн-ік-□
па-ведамл-я-льн-іц-а
па-ведамл-я-льн-ы
па-ведамл-я-ць
па-вез-ці
па-вей-ва-ць
па-век-∅-□
па-век-а
па-вел-іч-а-льн-ік-□
па-вел-іч-а-льн-ы
па-вел-іч-энн-е
па-верадз-і-ць
па-вер-ан-ы

па-вер’-е (па-вер-й-э)
па-вер-к-а
па-верс-е
па-верх-н-ев-ы
па-верх-н-я
па-вер-ы-ць
па-вес-і-ць
па-весл-ав-а-ць
па-весн-ав-ому
па-вест-к-а
па-вес-ці
па-весял-е-ць
па-весял-і-ць
паветр-ан-ы
паветр-а-плав-а-льн-ы
паветр-а-плав-а-льн-ік-□
паветр-а-плав-а-нн-е
па-ве-ў-∅-□
(*параўн*. па-вей-а-ць)
па-вечар-э-ць
па-веш-а-нн-е
па-ве-я-ць (па-вей-а-ць)
па-ві-ва-ць
па-від-н-е-ць
па-віль-ва-ць
па-вільгат-н-е-ць
павільён-н-ы
па-віл-я-ць
па-він-ен-□
па-він-н-асць-□
па-віншав-а-ць
пав-ін-ы
па-віс-а-ць
па-віс-е-ць
па-віск-ва-нн-е
па-віск-ва-ць
па-віс-ну-ць
па-віт-а-ць
па-ві-ць
па-вішч-а-ць
па-вод-даль
паводз-ін-ы
(*гіст*. па-водз-ін-ы)
паводз-і-ць
(*параўн*. паводз-ін-ы)
па-водз-і-ць (*параўн*. вадз-і-ць)
па-вод-к-а
па-вод-к-ав-ы
па-воз-ач-н-ы
па-воз-к-а
павой-н-ік-□
павой-н-ы
па-вол-і
па-воль-н-а
па-воль-н-асць-□
па-воль-н-ы
па-воўч-аму
па-вудз-і-ць
па-вуж-а-ць
па-вуз-е-ць
па-вуз-і-ць
павук-а-падобн-ы
павук-ов-ы
павуц-ін-а
павуц-ін-ав-ы
павуц-ін-к-а
павуц-інн-е
павуц-ін-н-ы
па-вуч-а-льн-а
па-вуч-а-льн-асць-□
па-вуч-а-льн-ы
па-вуч-а-нн-е
па-вуч-а-ць
па-выс-і-ць
па-вы-ць
па-выш-ан-ы
па-выш-а-ць
па-выш-э-нн-е
па-выш-э-ць
па-вэндз-і-ць
па-вя-ва-нн-е
па-вя-ва-ць
па-вяз-а-ць
па-вяз-ва-ць
па-вяз-к-а
па-вя-л-і-ць (па+вяд+л+і+ць)
па-вял-іч-ва-нн-е

па-вял-іч-ва-ць
па-вял-іч-ы-ць
па-вя-л-ы (па+вяд+л+ы)
па-вя-ну-ць (па+вяд+ну+ць)
па-вянч-а-ць
па-вяр-ну-ць
па-вярх-оўн-а
па-вярх-оўн-асць-□
па-вярх-оўн-ы
па-вясен-н-яму
па-вяск-ов-аму
па-вясн-ов-аму
па-вячэр-а-ць
па-габл-яв-а-ць
па-гавар-ы-ць
па-гавор-ва-ць
па-гад-ав-а-ць
па-гадж-а-льн-ы
па-гадж-а-ць
па-гадзін-н-а
па-гадзін-н-ы
па-гадз-і-ць
па-гад-н-енн-е
па-гад-ов-а
па-гад-ов-ы
па-га-і-ць (па-гай-і-ць)
па-гайд-а-ць
па-галад-а-ць
па-галас-і-ць
па-гал-е-ць
па-гал-і-ць
па-галос-к-а
па-галоў-е (па-галоў-й-э)
па-галоў-н-а
па-галоў-н-ы
па-ган-а
па-гандл-яв-а-ць
па-ган-і-ць
па-ган-ы
па-ган-я-т-ы
па-ган-я-ць
па-гар-ав-а-ць
па-гарад-ск-ому
па-гарб-е-ць
пагард-∅-а
пагардж-а-ць
пагард-лів-а
пагард-лів-асць-□
пагард-лів-ы
па-гарл-ан-і-ць
па-гарт-ав-а-ць
па-гарт-а-ць
па-гарш-а-ць
па-гарш-энн-е
па-гар-э-л-ец-□
па-гар-э-л-ы
па-гар-э-ць
па-гас-а-ць
па-гас-і-ць
па-гас-ну-ць
па-гаспад-ар-ск-у
па-гаспад-ар-ы-ць
па-гасц-і-ць
па-гасц-яв-а-ць
па-гатав-а-ць
па-гаш-а-ць
па-гаш-энн-е
па-гектар-н-а
па-гектар-н-ы
па-герой-ск-у
па-гіб-ель-□
па-гіб-ель-н-ы
па-гладж-ва-нн-е
па-гладж-ва-ць
па-гладз-і-ць
па-глад-ч-э-ць
па-глуш-ы-ць
па-глуш-э-ць
па-глыб-е-ць
па-глыб-і-ць
па-глыбл-ен-а
па-глыбл-ен-асць-□
па-глыбл-енн-е
па-глыбл-ен-ы
па-глыбл-я-ць
па-глы-н-а-льн-ы
(па+глыт+н+а+льн+ы)
па-глы-н-а-нн-е

(па+глыт+н+а+нн+е)
па-глы-н-а-ць
(па+глыт+н+а+ць)
па-глы-ну-т-ы
(па+глыт+ну+т+ы)
па-глы-ну-ць
(па+глыт+ну+ць)
па-глыт-а-ць
па-гляд-а-ць
па-гляд-ва-ць
па-глядз-е-ць
па-глянц-ав-а-ць
па-гна-і-ць (па-гнай-і-ць)
па-гн-а-ць
па-гні-с-ці
па-гні-ць
па-г-ну-ць (па+гіб+ну+ць)
пагод-лів-ы
пагод-н-ы
па-гойд-ва-нн-е
па-гойд-ва-ць
пагон-□ (*генеральскі*)
па-гон-∅-□ (*дарога, па якой гоняць жывёлу на папас*)
па-гон-н-ы
па-гон-∅-я
па-гор-ак-□
па-горк-ну-ць
па-горш-а-нн-е
па-горш-а-ць
па-горш-ва-нн-е
па-горш-ва-ць
па-горш-ы-ць
па-гор-ыст-асць-□
па-гор-ыст-ы
па-граб-і-ць
па-граж-а-льн-а
па-граж-а-льн-ы
па-граж-а-ць
па-граз-і-ць
па-гран-і-ць
па-граніч-н-ік-□
па-граніч-н-ы
па-гранічч-∅-а
па-граш-ы-ць
па-гроз-∅-а
па-гроз-лів-а
па-гроз-лів-асць-□
па-гроз-лів-ы
па-гроз-н-ы
па-гром-∅-□
па-гром-н-ы
па-гром-шчык-□
па-груб-е-ць
па-груб-і-ць
па-груж-а-ць
па-груз-ач-н-ы
па-груз-і-ць
па-груз-к-а
па-груз-ну-ць
па-грыз-ці
па-грым-е-ць
па-грэб-ав-а-ць
па-грэб-ці
па-грэ-ць
па-губ-і-ць
па-губл-я-ць
па-гудз-е-ць
па-гуд-к-а
па-гук-а-ць
па-гук-ва-ць
па-гуль-ва-ць
па-гул-я-нк-а
па-гул-я-ць
па-гусц-е-ць
па-гус-ці
па-гутар-ы-ць
па-гуч-а-ць
па-гуч-н-е-ць
пад-абед-□
падабен-ств-а
па-да-ва-льшчык-□
па-да-ва-льшчыц-а
па-да-ва-нн-е
па-да-ва-ць
па-да-вец-□
па-дав-і-ць

